№ 35 (183) Vilnia, 10 śniežnia 1938 h. Hod XI.

Chryścijanskaja DUMKA

BIEŁARUSKI ČASAPIS — VYCHODZIĆ TRY RAZY U MIESIAC

# Niamieckija imknieńni i Biełarusy

Sioleta Niamieččyna zdabyła biez vajny Aŭstryju i Sudety. Paśla hetaj zdabyčy stałasia jana najbolšaj dziaržavaj u centralnaj Eŭropie i pašyryła svaje ŭpłyvy na ŭsie mienšyja siarednia - eŭrapejskija dziaržavy.

Hety ŭzrost palityčnaj siły Niamieččyny pastaviŭ jaje na pieršaje miesca ŭ mižnarodnych spravach i ciapier uvieś śviet cikavicca: što dalej buduć rabić pavadyry sučasnaj Niamieččyny—kudy Niamieččyna imkniecca?

Na hetaje pytańnie adkazać nia lohka, bo nichto dakładna nia viedaje, jakija snuje plany niamiecki palityčny štab na čale z Hitleram.

Adnak na padstavie faktaŭ, jakija ŭžo viedamy, možna sioje-toje skazać i ab niamieckich planach dalejšych. Viedajem, što Niamieččyna ŭžo achapiła svaimi ŭpłyvami amal usie dziaržavy nia tolki siaredniaj, ale i paŭdzionnaj Eŭropy. Padparadkavała jana hetyja dziaržavy svajej palitycy na toje, kab ad ich dastavać zboža i naftu, a tudy zbyvać svaje pramysłovyja vyraby. Hazety padajuć, što Niemcy ŭžo planujuć budovu aŭtamabilnaha i čyhunačnaha šlachu z Hamburhu praz Prahu i Karpackuju Ukrainu ŭ Rumyniju, kab adtul pryvozić sabie naftu. Ale hetym Niamieččyna nie zdavolicca. Jana choča siahnuć i ŭ Aziju, dzie znachodziacca vialikija žaroły nafty ŭ Mezopotamii. Tudy Niamieččyna namierana dajści pry pamačy Tureččyny. Z Mezopotamii niedaloka ŭžo i ŭ Indyju, jakaja ciapier znachodzicca pad uładaj Anhlii.

Ale na hetym šlachu Niamieččyna zdavalaje tolki svoj promysieł—moža zdabyć dla fabrykaŭ syrec i častkova zbyvać fabryčnyja vyraby. Da hetaha-ž joj patrebny chleb i šyroki rynak zbytu pramysłovaj pradukcyi.

Apošnimi časami Niamieččyna vielmi cikavicca ŭschodniaj Eŭropaj—SSSR, dzie raspałožany Ukraina i Biełaruś. Zrazumieła, što zacikaviłasia jana hetaj častkaj Eŭropy nia dziela taho, što choča pamahčy Ukraincam i Biełarusam zbudavać svaju dziaržavu, ale dziela taho, što hetym spadziajecca razvalić SSSR, adčynić dla svajho promysłu vialiki rynak zbytu i dabracca da chlebnaha bahaćcia Ukrainy, dy lasnoha bahaćcia Biełarusi. Adnak hety šlach nia susim prosty. Kab mieć niejkuju karyść z Ukrainy i Biełarusi — treba im pamahčy addzialicca ad SSSR. Eŭrapejskija hazety pišuć, što dziela hetaha stvorana Karpackaja Ukraina, adkul maje jści prociŭsavieckaja prapahanda ŭ Savieckuju Ukrainu. Kali-ž u Savieckaj Ukrainie pačnucca bunty — niamieckaja armija pamoža Ukraincam prahnać balšavikoŭ. Hetak pišuć hazety. Ale ci hetak vyjdzie — niaviedama. Adno viedama, što Niamieččyna choča razvalić SSSR, bo tady z tymi dziaržavami, jakija paŭstali-b da samastojnaha žyćcia na hetych prastorach, asabliva z Ukrainaj i Biełarusiaj, lahčej dahavarycca.

Pry hetym treba adznačyć, što nijaki narod i nijakaja dziaržava biezkarysna druhim nie pamahaje. Taksama i Niamieččyna: jana spadziajecca, što kali-b paŭstała Ukraina i Biełaruś, dyk jana lahčej dabrałasia-b da ŭkrainskaha zboža i biełaruskich lasoŭ.

Heta adnak nia značyć, što Biełarusy pavinny ŭžo ciapier bajacca niamieckich planaŭ i ŭžo ciapier z imi zmahacca. Nie! Treba tolki viedać, što niama nikomu biezkarysnaj

# Б. Н. А. аб народных патрэбах.

Беларускае Народнае Аб'еднаньне (Б.Н.А.) — гэта адзіная (фармальна і легальна) ў Польскай Рэчыпаспалітай беларуская палітычна-грамадзкая арганізацыя.

Б. Н. А. пасьля спыненьня «Беларускай Крыніцы» свайго прэсавага воргану ня мае. Свае постуляты, унятыя пастановамі арганізацыйных уладаў Беларускага Народнага Аб'яднаньня, выяўляе Б. Н. А. спэцыяльнымі камунікатамі.

Праўда, пастановы Б. Н. А. часам падпадаюць пад канфіскату і пасьля канфіскаты выходзяць надтаж аскубаныя, але і гэтая астача не пустаслоўная.

Разглядаем **камунікат БНА № 8**, які паявіўся на сьвет з падпісам: «другое выданьне пасьля канфіскаты».—Гэта пастановы Цэнтральнага Камітэту Беларускага Народнага Аб'еднаньня (Б.Н.А) з 18 верасьня 1938 году.

Цэнтральны Камітэт Б. Н. А. у гэтым камунікаце, прыступаючы да сьцьверджаньня агульнага палажэньня Беларускага народу і выяўленьня сваіх дамаганьняў, паказвае на пастановы Рады Б.Н.А. ў кастрычніку 1937 г. (якія былі адміністрацыйнай уладай сканфіскаваны, але пасьля апраўданы Судом) і заяўляе, што гэныя пастановы Рады і гэты камунікат — «гэта выяўленьне прыроднага права і імкненьня, каб беларускі народ заняў належнае месца ў сям'і ўсіх іншых культурных народаў».

Аб палажэньні Беларусаў агулам Цэнтральны Камітэт Беларускага Народнага Аб'еднаньня сьцьвярджае наступнае:

«Беларускі народ на ўсіх сваіх этнаграфічных землях знаходзіцца ў палажэньні *народу недзяржаўнага:* Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка (Б.С.С.Р.) супроць волі Беларускага народу Камуністычнай Партыяй насільна падпарадкавана дыктатуры расейскага цэнтру ў Маскве, які ў Б.С.С.Р. праводзіць расейскую асыміляцыйную палітыку».

Сьцьвердзіўшы сучаснае палажэньне Беларускага народу Цэнтр. К-т Б.Н.А., ня скрываючы свайго нездаваленьня з гэткага палажэньня піша гэтак:

«Цэнтральны Камітэт Бел. Народн. Аб'еднаньня выказвае, што Б.Н.А., як арганізацыя дэмакратычная ня ўхіляецца ад супрацоўніцтва з дэмакрацыяй іншых народаў, разумеючы дэмакрацыю паводле паняцьця заходня-эўрапэйскага, якая стаіць за прынцып **самаазначэньня народаў** і за справядлівасьць, за свабоду і процiў усялякага зьдзеку, як фізычнага, так і маральнага».

Гэтулькі гэным разам гаворыць Б. Н. А. аб агульнай праблеме Беларускага Народу. Далей у камунікаце № 8 чытаем пастановы Цэнтр. К-ту Б. Н. А., якія адносяцца да справы **палажэньня Беларусаў у Польскай Рэчыпаспалітай.**

Пасьля гэтага пералічэньня галоўных патрэбаў беларускага насельніцтва ў Польскай Рэчыпаспалітай, тут Цэнт. К-т Б.Н.А. зварочвае ўвагу на наступныя патрэбы Беларусаў:

**— 1. У жыцьці народна-палітычным:**

а) На патрэбу выбарнага закону ў Сойм і Сэнат, абапёр-

pomačy i što najkaryśniejšaja — tolki ŭłasnaja siła. Dziela hetaha nia možna ślepa zachaplacca ani Hitleram, ani inšymi dabradziejami, bo kožny dobry, ale śpiarša dla siabie, a paśla dla druhoha.

---

AD. STANKIEVIČ

# Biełaruski Chryścijanski Ruch

*Histaryčny narys.*

RAZDZIEŁ XI. 32)

## Apošnija padziei BChD.

*(1930—1935).*

### § 3. — Biezpadstaŭnyja zakidy.

„Krajoviec" u № 8 časapisu „Przegląd Wileński" (pierastaŭ vychodzić uvosieni 1938 h.) z dnia 6.XI.37 h. u art. „Wracamy do demokracyi", padčorkvajučy demakratyčny charaktar BNA (Biełaruskaje Narodnaje Abjednańnie"), niazhodna z praŭdaj pradstaŭlaje BChD, z jakoj henaje BNA paŭstała.

U artykule henym čytajem: „U biełaruskim hramadzianstvie bačyli my jašče niadaŭna šukańnie ratunku abo ŭ kamuniźmie, abo ŭ fašyźmie. Da pieršaj hrupy naležyli epihony „Hramady", a da druhoj daŭniejšaja BChD, jakaja ŭ svaim orhanie „Bieł. Krynica" ŭ peŭnym času vyrazna prapahavała idei totalizmu, rasizmu i h. d. Z bieham adnak času nastupiła źmiena. Daŭniejšyja sympatyki da fašyzmu ŭ jaho niamieckim vydańni pieratvarylisia ŭ vyraznuju antypatyju. Źmiena-ž nazovy BChD na novuju — „Bieł. Narodnaje Abjednańnie" — aznačała zvarot da demakratyzmu".

Voś-ža bałamutnaść i niazhodnaść z praŭdaj hetkaha pradstaŭleńnia BChD vidać užo z usiaho vyšejskazanaha ŭ hetaj pracy. Ale, kab praścierahčy budučaha historyka prad hetym bałamuctvam i niapraŭdaj i ablahčyć jamu vyrabić praŭdzivy pahlad na hetyja spravy, spyniajusia tut nad henymi zakidami jašče krychu. Paŭtaru tut ahułam toje, što ja na ŭsio heta skazaŭ pad mianiuškaj „Tutejšy" ŭ tymža „Przegl. Wil." z dnia 16.XII.37 h. u № 9.

1) 10 hadoŭ tamu J. E. Arcyb. R. Jałbžykoŭski (ab čym vyšej) „praklaŭ" i BChD i „Bieł. Krynicu" miž inšym tak-ža i za toje, što hetaja arhanizacyja i jaje orhan bytcam spryjała kamunizmu. 2) U 1936 h. polskija administracyjnyja ŭłady vychad „Bieł. Kr." spynili miž inšym tak-ža za spryjańnie bytcam kamunizmu. 3) Niekatoryja Biełarusy, skrajnyja nacyjanalisty (rasisty, fašysty) BChD, z pryčyny jaje demakratyčnaści, prypisvali časam tak-ža skłonnaść da kamunizmu.

Pryčynaj prypisvańnia zakidaŭ BChD kamunizmu byŭ jaje niezaležny — nacyjanalny i demakratyčny — charaktar. I heta całkom zrazumieła.

Tymčasam voś całkom novyja zakidy: BChD—fašystaŭskaja, rasistaŭskaja, totalistyčnaja, hitleroŭskaja.

Dzie-ž praŭda? *In medio*, pa siaredzinie. 1) Pavadyry „Hramady", budučy całkom pasłušnym aruž-

тага на пяцёх дэмакратычных прыметах;

б) На патрэбу поўнае свабоды выбараў у Сойм, Сэнат і самаўрады;

с) На патрэбу ажыўленьня самаўрадавай дзейнасьці;

2. **У жыцьці гаспадарчым:**

а) На патрэбу правядзеньня зямельнай рэформы на землях заселеных Беларусамі, пры якой былі-б надзелены да поўназямельля малазямельныя і беззямельныя мясцовыя сяляне;

b) На патрэбу аблягчэньня падаткаў і самаўрадавых павіннасьцяў;

c) На патрэбу выасыгнаваньня танных доўгатэрміновых крэдытаў для індывідуальных гаспадарак пры пераходзе іх на хутары;

d) На патрэбу коопэратыўнага закону, які для коопэрацыі, абслугоўваючай беларускае насельніцтва, даваў-бы магчымасьць арганізавацца на беларускім нацыянальным прынцыпе.

3. **У жыцьці народна-асьветным:**

а) На патрэбу адчыненьня для беларускага насельніцтва, згодна з абавязваючай канстытуцыяй і іншымі законамі, пачаткавага і сярэдняга школьніцтва з навучаньнем у роднай мове;

b) На патрэбу наладжаньня зашкольнай асьветы для дарослай моладзі беларускімі культурна-асьветнымі грамадзкімі арганізацыямі;

с) На патрэбу культурна-асьветных і гаспадарчых арганізацыяў і патрэбу дзяржаўнай дапамогі ім з бюджэту, вызначанага для Фонду Нацыянальнай Культуры, пропорцыянальна да ліку беларускага насельніцтва ў дзяржаве.

4. **У жыцьці рэлігійным:**

а) На патрэбу правядзеньня беларусізацыі ў праваслаўным царкоўна-рэлігійным жыцьці на землях заселеных Беларусамі ў царкоўных пропаведзях і агулам у навучаньні рэлігіі;

b) На патрэбу ўвядзеньня ў касьцёл у беларускіх каталіцкіх парахвіях беларускай мовы ў казаньнях і дадаткавых набажэнствах, а так-жа на патрэбу навучаньня рэлігіі беларускіх каталіцкіх дзяцей пабеларуску. —

Гэтак прадстаўляе Беларускае Народнае Аб'еднаньне патрэбы Беларускага народу ў № 8 свайго Камунікату.

Пры гэтым трэба адзначыць, што Б. Н. А. прыймае актыўнае ўчасьце ў цяперашніх выбарах у сельска-грамадзкія рады.

Праца Б. Н. А., трэба прызнаць, удзячная і карысная, але нялёгкая. *Сідарук.*

# Hałasy času

**Kardynał Verdier praciŭ fašyzmu.** Kardynał Paryža arcybiskup Verdier u piśmie da arcybiskupa ŭ Belhii kardynała Van Raey ab fašyzmie piša hetak:

— Navuka rasizmu viadzie čałaviectva da najhoršaj abrydłaści žyćcia. Tut pobač nas, u imia prava rasy, tysiačy ludziej čujucca, jak dzikija źviary, katorych pazbavili dabra, sapraŭdnyja niavolniki, jakija nia mohuć znajści na łonie cyvilizacyi abarony i kavałka chleba. —

U kancy kardynał Verdier piša, što kali šyrej zapanuje prava rasy, dyk čałaviectva z žacham adstupić nazad z svajej kulturaj i cyvilizacyjaj.

**Pavarot da relihii ŭ Čechii.** Nadoviačy adbylisia vybary prezydenta ŭ Čechasłavaččynie. Na prezydenta vybrany Emil Hachy, jaki raspačaŭ svajo ŭradavańnie paśla prasłuchańnia śv. Imšy. Českaja presa piša, što prezydent Hachy pakiruje respubliku da pavarotu narodu da tradycyi śv. Vacłava, da relihijnaści i duchovaj maralnaści hramadzkaj i palityčnaj.

---

žam u rukach svaich apiakunoŭ z Uschodu, nia tolki što sami nie pracavali nad biełaruskaj narodnaj i demakratyčnaj ideolohijaj, ale paraližavali takuju pracu BChD. 2) Pa likvidacyi „Hramady" časć jaje pavadyroŭ zarjentavałasia na tak zv. polskuju „sanacyju", dalej nie pracujučy nad biełaruskaj narodnaj, demakratyčnaj ideolohljaj i zmahajučysia z takoj pracaj BChD.

3) Z hetych atakaŭ BChD i zleva i sprava vidać jaje centralny—narodny i demakratyčny—charaktar, jaki jana ŭściaž padčorkvała, a jaki tak vyrazna kidajecca ŭ vočy ŭžo navat z samaha nazovu: Biełaruskaja Chryścijanskaja Demakracyja. Znača: biełaruskaść, chryścijanskaść, demakratyzm—voś hałoŭnyja jaje padstavy teoryi i praktyki. Ahułam chryścijanskaja demakracyja totalistyčnaha i rasistoŭskaha charaktaru — heta *contradictio in adiecto*, heta supiarečnaść sama ŭ sabie. Tymbolš heta adnosicca da ChD biełaruskaj, jakaja, dziakujučy specyfičnym biełaruskim abstavinam, zaŭsiody vyrazna trymałasia demakratyzmu, naražajučysia za heta na niamiłyja dla siabie zakidy i kanflikty z boku nia tolki kamunizmu, ale i fašyzmu. 4) „Biełaruskaja Krynica" ŭ niekatorym časie vyrazna prapahavała idei fašyzmu i h. d. — čytajem u tym-ža artykule „Przegl. Wil." Pisać ab hetym pisała, ale nie prapahavała. Sprava voś u 'čym. U praciahu ŭsiaho 1935 h. BChD intensyŭna pracavała nad spravaj svajej abnovy i na bačynach „Biel. Kr." drukavała mnoha artykułaŭ, siarod jakich mahli być źmiestu supiarečnaha z chryścijanskaj demakracyjaj, ale — padčorkvaju — henyja artykuły byli drukavanyja, jak dyskusyjnyja. 5) Isnuje, ab čym vyšej u hetaj pracy, až niekalki vydańniaŭ prahramy BChD z roznaha času jaje isnavańnia i dziejnaści. A prahramy ŭ spravie ideovaha charaktaru BChD — heta sapraŭdy aŭtentyčnyja krynicy i niepadkupnyja śviedki. Voś-ža, prahledziŭšy henyja prahramy, nie napatykajem u ich absalutna ničoha, što paćviardžała-b henyja zakidy „Krajoŭca". Naadvarot — spatykajem tam konsekventna praviedzienuju ideju demakratyzmu. 6) Urešcie na pač. 1936 h. z BChD paŭstała BNA. Ci paŭstała jana, jak *Deus ex machina*, jak niešta susim novaje i niespadziavanaje? Nie. Hena paŭstańnie — heta byŭ naturalny i lohičny vynik razvoju BChD. U čym-ža sutnaść źmieny, abnovy? Pradusim u tym, što BNA — heta ŭžo całkom śvieckaja, niezaležnaja palityčnaja arhanizacyja.

Znača, možna spračacca ab ***kolkaści i jakaści*** demakratyzmu ŭ BChD i BNA, ale nikoli niamožna BChD demakratyzmu admović susim.

Paśla hetkaha majho adkazu na heny artykuł u „Przegl. Wil.", u tym-ža časapisie i ŭ tym-ža № 9 taho-ž „Krajoŭca" ŭznoŭ pajaviŭsia artykuł, u jakim jon svaje zakidy padtrymlivaje dalej, paklikajučysia na artykuły ŭ „Biel. Krynycy" jašče z 1934 h. U hetym svaim novym artykule „Krajoviec" dalej

## U Litoŭcaŭ

**Dziejnaść Litoŭskaha T-va Litaratataraŭ.** T-va Lit. Litarataraŭ u Koŭnie prystupiła da arhanizacyi pierakładaŭ z litoŭskaj litaratury na inšyja jazyki.

**Litoŭskaja narodnaja pieśnia na hramafonnych plitkach.** Koŭienskaje radyjo prystupiła da papularyzacyi litoŭskaj narodnaj pieśni i pačało masava naihryvać litoŭskuju narodnuju pieśniu na hramafonnyja plitki.



# Da viedama padpiščykaŭ i čytačoŭ „CHRYŚCIJANSKAJ DUMKI"

**Z Novaha Hodu rychtujemsia vydavać naš časapis ŠTOTYDNIA.**

**Raz u miesiac budzie dadatak dla dziaciej „ZORKA".**

Usio razam budzie kaštavać u hod 4 załatoŭki; na paŭhoda — 2 zał. na try miesiacy — 1 zał.;

Vinavatych duža prosim piaśpiašycca zapłacić nam doŭh. **Dajom času da 15.I.1939.** Niaprysłaŭšym da hetaha času daŭhu časapis budzie strymany.

Usich padpiščykaŭ prosim prysyłać nam padpisku na 1939 hod. Chto pryšle padpisku **da 1.III.1939 adrazu za ŭvieś hod,—atrymaje**

## premiju—knižki

| | |
|---|---|
| **Якуб Колас** — Сымон Музыка (паэма) . . . . | 1,00 |
| **Hadleŭski W. ks.**—Śviataja Historyja Nowaha Zakonu | 1,50 |
| „ „ „ Śviataja Historyja Stzroha Zakonu | 1,00 |
| **Adważny W.** - Biełaruskija cymbały (zbornik vieršaŭ) | 0,50 |
| **Арсеньнева Н.**—Пад сінім небам (зборнік вершаў) | 1,20 |
| **Паўловіч С.** — Першыя зерняткі. Беларуская граматка для хатняга навучаньня . . | 0,50 |

Chto pryšle da taho-ž 1.III.1939 adrazu **za paŭhoda, atrymaje** jak **premiju nastupnyja knižki:**

| | |
|---|---|
| **Adważny W.** — Chłapiec (poviešć) . . . . . . | 1,50 |
| **Гарэцкі М.** Хрэстаматыя бел. літаратуры XI в.—1905 | 2 00 |

Hrošy najvyhadniej prysyłać „przekazem rozrachunkowym". Numar našaha konta: 63.

*Vydaviectva „Chryścijanskaj Dumki".*

prypisvaje BChD rasizm, nie dajučy na heta nijakaha dokazu, a tak-ža prypisvaje fašyzm, apirajučysia na artykułach „Bieł. Krynicy", u katorych BChD prociŭstaŭlajecca typu demakratyzmu indyvidualistyčnaha, jaki tak bujna razvivaŭsia jašče prad vajnoj, a jaki pašla vajny pačaŭ raskładacca, i vykazvajecca za inšym, novym typam demakratyzmu: za chryścijanskim korporacijonizmam. Vidać „Krajoviec" chryścijanski korporacijonizm uvažaje za adno z fašyzmam i dziela hetaha tak mocna pamyliŭsia. Chryścijanski korporacijonizm, jaki prapahuje Papa Pij XI u svajej encyklicy „Quadragesimo anno", a jakaja stałasia padstavaj sučasnaj chryścijanskaj sacyjolohi:, u svajej sutnaści jošć demakratyzmam. Chryścijanski korporacijonizm, rašuča baroniačy čałavieka ad paniavoleńnia jaho dziaržavaj, što robiać roznyja totalizmy, snuje ideał hramadzkaha ładu, jaki maje zhurtavać uvieś narod, usie klasy, usich hramadzian na padstavie pryncypu volnaści, roŭnaści i hramadzkaj spraviadlivaści.[1])

A što datyča zakidu „Krajoŭca", byccam BChD kłaniłasia da rasizmu, dyk biezpadstaŭnaść hetaha zakidu tak-ža kožnamu jošć jasnaj, chto choć krychu jošć abznajomleny z chryścijanstvam, jakoje ŭ samaj svajej sutnaści jošć antyrasizmam: chryścijanstva adnolkava pryznaje i „Hreka i Žyda". Hetych padstavovych pryncypaŭ chryścijanskaj navuki BChD zaŭsiody trymałasia vierna.

1) St. Turnau — Ku lepszej przyszłości. Poznań 1937.

Voś-ža jašče raz paŭtaraju, što možna mieć sumnivy što da *kolkaści i jakaści* demakratyzmu ŭ BChD, a nie zapiarečvać jaho susim, jak heta zrabiŭ „Krajoviec". Zakid-ža rasizmu vyhladaje prosta humarystyčna. Słovam, „Krajoviec" mylajecca. Ale *errare humanum est.*

### § 4. — Relihijnaja prablema.

BChD, jakaja mocna padčorkavała svoj relihijna-chryścijanski charaktar, zradziła BNA, jakoje ŭžo žjaŭlajecca čysta śvieckaj, palityčnaj arhanizacyjaj. Naradziny hetyja nie prajšli dla BChD lohka — jany jej šmat kaštavali trudoŭ i bolu. Jak-nijak za stolki hadoŭ svajho isnavańnia, jana mnohich uzhadavała, vyrabiła i da siabie sardečna pryviazała. I voś, kali pačałasia na bačynach „Bieł. Krynicy" dyskusija ab abnovie i da taho ŭ kirunku całkom śvieckim, dla mnohich chadekaŭ heta była badaj trahičnaja reč.

Praŭda, u prahramie BNA niama ničoha praciŭnaha śvietapahladu chryścijanskamu, a navat jošć § 16, jaki kaža: „BNA za svabodu isnavańnia relihii i dziejnaści relihijnych ustanoŭ i za svabodu vyznavańnia relihii", ale mnohich heta nie zdavalała i tryvožyła; asabliva heta „hrozna" vyhladała dla

## Biełaruskaja chronika.

**„Šlach Biełaruskaha Studenta“.** Ad niekatoraha času pačaŭ vychodzić pry „Šlachu Moładzi“ „Šlach Biełaruskaha Studenta“. Užo vyjšaŭ № 3-4. Składajecca jon z vaśmioch bačyn. Maje cely rad, aryhinalnych, cikavych i aktualnych artykułaŭ, a tak-ža bahatuju chroniku. Kirunak ahulna-nacyjanalny i demakratyčny. Vychodzić miesiačna.

**„25 sakavika“.** Tak-ža studencki časapis, jakoha vyjšaŭ ciapier № 4. Časapis hety da biełaruskich nacyjanalnych i sacyjalnych prablemaŭ prabuje padchodzić z hledzišča chryścijanskaha.

**Biełaruski kancert.** 10.XII sioleta ŭ zali Śniadeckich U.S.B., ładžany Biełaruskim Studenckim Sajuzam, adbyŭsia bieluruski kancert z učaściem słaŭnaha biełaruskaha tenara M. Zabejdy-Sumickaha i choru Bieł. Stud. Sajuzu pad kiraŭnictvam R. Šyrmy. Abšyrniej ab hetym kancercie napišam u numary nastupnym.

**Raraty** za pamysnaść pracoŭnych Biełarusaŭ adbylisia 8.XII. Nabaženstva adpraŭlaŭ i havaryŭ navuku Ks. Ad. Stankievič.

**Ks. J. Hermanovič u Rymie.** Daviedvajemsia, što viedamy biełaruski piśmieńnik Ks. J. Hermanovič (Vincuk Advažny), jaki vyjechaŭ sioleta z Vilni paśla vysialeńnia biełaruskich zakońnikaŭ Maryjanaŭ z Drui, prabyvaje ciapier u Rymie.

**18-tyja ŭhodki Słuckaha Paŭstańnia.** Sioleta ŭ śniežni m-cy minaje 18 hadoŭ ad aružnaha Słuckaha Paŭstańnia suproć balšavikoŭ, jakoje mieła na mecie bara nić niezaležnaści Biełarusi. Aružnaja baraćba słuččakoŭ za intaresy Biełaruskaha Narodu, jość adnym z najvažniejšych mamentaŭ u historyi biełaruskaha adradžeńnia.

**10-ці годзьдзе літаратурнае творчасьці Міхася Машары.** Сёлета мінула 10 год як ведамы беларускі малады паэт Міхась Машара працуе на бел. літаратурнай ніве.

**Другое выданьне зборніка „З пад стрэх саламяных.“** У Вільні рыхтуецца да другога выданьня зборнік вершаў ведамага нашага песьняра Міхася Машары п. н. „З пад стрэх саламяных.“ Першае выданьне гэтага зборніка было ў 1937 годзе сканфіскавана адміністрацыйнымі ўладамі.

**50-ja ŭhodki naradzinaŭ J. Drazdoviča.** Sioleta ŭ kastryčniku minuła 50 hadoŭ ad naradžeńnia viedamaha biełaruskaha mastaka-grafika Jazepa Drazdoviča. Z hetaj nahody vyražajem jamu svaje pažadańni pamysnaści ŭ dalejšaj jaho pracy!

**Творы Т. Шэўчэнкі пабеларуску.** У 1939 г. прыпадаюць 125 угодкі нарадзінаў найвялікшага украінскага паэта Тараса Шэўчэнкі. З гэтай прычыны беларускія паэты ў БССР Я. Купала, Я. Колас, Зьмітрок Бядуля, К. Крапіва, П. Броўка, П. Глебка, А. Куляшаў, М. Клімкавіч пераклалі на беларускую мову творы Т. Шэўчэнкі, якія маюць у хуткім часе выйсьці ўжо з друку.



niekatorych biełaruskich ksiandzoŭ. Vykazvali jany ŭ hetaj spravie svaje tryvožnyja pahlady vusna i piśmienna. Dla prykładu źmiaščajem tut list adnaho z biełaruskich ksiandzoŭ da ks. Ul. Tałočki, u jakim aŭtar hetak vylivaje svaje žali z nahody abnovy BChD na BNA: „Nia ŭžo vy dapuścicie, kab hetaje dzicianio, što z takoju natuhaju rodzić nam Babula Chryścijanka Dobraja, dy było nia chryščanym? Z dyskusyjaŭ bo tak vyhladaje, što nichto nia kvapicca da hetaha, tak jak-by nikoha nie abchodziła heta. Adzin bo mizernieńki parahrafik, jaki z łaski svaje dazvalaje ŭ BNA *isnavać* relihii (dy i jašče ŭ adnej kletcy z sektanskim samadurstvam), — nie hvarantuje chryścijanskaści... Pasłaŭ ja paru słoŭ na henu temu im, ale peŭna nia vydrukujuć: zaŭsiody „zanadta katalickaje.“ — ? — Ot, da čaho dažylisia“...[1])

Adnak hetak dumali tolki tyja, jakija nie razumieli sutnaści spravy i jany astalisia ŭ susim niaznačnaj mienšaści. Vializarnaja bolšaść jak chadekaŭ duchoŭnych, tak i śvieckich, vykazałasia za abnovu ŭ tym kirunku, u jakim jana i nastupiła.

Hetkim čynam BChD sapraŭdy vyrašyła svaju biełaruskuju palityčnuju prablemu i, jak ubačym nižej, vyrašyła tak-ža i biełaruskuju prablemu relihijnuju, ci prynamsi pakazała darohu da vyrašeńnia hetaj prablemy.

Užo addaŭna ŭ kruhoch BChD było zaŭvažanym nienarmalnaje źjavišča miašańnia razam prablemaŭ palityčnych i relihijnych i zaznačalisia sproby ŭparadkavańnia hetych spraŭ, raździalajučy ich miž saboj.

Užo daŭno mnohim chadekam było jasna, što spravy relihijnyja i relihijnaje ŭzhadavańnie biełaruskaha narodu pavinna ŭ nas vieści niejki asobny adumysłovy časapis, asobnaje jakoje, dla hetaha adymysłu praznačanaje, relihijnaje tavarystva ci arhanizacyja.

Voś-ža dzieła hetaha jašče ŭ 1928 h. paŭstaŭ časapis „Chryścijanskaja Dumka“ jak biezpartyjny, chryścijanski, ahulna-biełaruski, narodny orhan. A ŭ 1929 h. paŭstała tavarystva „Biełaruskaje Katalickaje Vydaviectva“, jakoje rupicca ab biełaruskaj relihijnaj litaratury. Orhanam-ža palityčnym BChD, a paśla BNA i dalej — až da svajho spynieńnia ŭładami — była „Bieł. Krynica“. Paśla-ž spynieńnia i BChD i „Bieł. Kr.“ BNA užo pravodzić svaju palityku praz adpaviednyja kamunikaty, jakich da kanca 1938 h. vyjšła dzieviać numaroŭ.

Hetkim čynam, jak bačym, vyrašyła BChD i prablemu relihijnuju, addzialajučy jaje ad palityki i kirujučy jaje na ŭłasnyja nohi.

[1]) Z ułasnaha archivu.

* * *

Ціш кругом, сон клеіць вочы,
Сэрца з болю штось заныла;
Над зямлёй васеньня ночка
Распусьціла свае крыла.

Сьвечка з трэскам дагарае
Сумна ноч глядзіць у вокна;
Па кутох снуюцца цені
Быццам тонкія валокна.

Толькі вецер часам сьціха
За вакнамі зашалхоча,
Або сьвершч ў сьцяне зашыты
Сваю песьню застракоча.

Думкі шэрыя таўпою
Лезуць ў сэрца як-бы змора...
Эх, лепш лягу я паспаці —
Можа сном забуду гора!

Сухая-Даліна
11.IV. 1936 г.

*А. Сярко.*

# Palityka

**Parazumieńnie Polščy z SSSR.** U prošłym numary my pisali ab pradoŭžańni dahavoru ab nienapadańni Polščy z SSSR. Hety fakt parazumieńnia Polščy z Savietami vyklikaŭ u palityčnym śviecie Eŭropy vialikaje zacikaŭleńnie. I zrazumieła, bo fakt zbližeńnia Polščy z balšavickaj Rasiejaj zaisnavaŭ u tym časie, kali vyrazna namiačajecca linija palityčnaj i ekanamičnaj ekspansii Niamieččyny na eŭrapejski ŭschod.

Ab samym fakcie hetaha parazumieńnia PAT paviedamlaje hetak: 1) asnovaj adnosinaŭ Polščy z SSSR buduć usie dahavory miž hetymi dziaržavami, razam z dahavoram ab nienapadańni z 25.VII. 1932 h. Hety dahavor, zaklučany na 5 hadoŭ, i pradoŭžany da 1945 h., maje davoli šyrokuju padstavu, jakaja zapaŭniaje nienarušnaść mirnych adnosinaŭ miž abiedźviama dziaržavami. 2) abodva ŭrady (polski i saviecki—red.) pryznajuć, što nidabchodna pazytyŭna vyrašyć usie spravy, jakija vypływajuć z uzajemnych dahavorami abniatych adnosin.

Hetaja deklaracyja polska — savieckaha parazumieńnia źjaŭlajecca ciapier punktam ahulna-palityčnaj uvahi. Anhielskaja i francuskaja presa acaniaje jaje, jak adkaz na niamieckuju ekspansiju ŭ kirunku eŭrapejskaha ŭschodu. Usie spadziajucca dalejšaha pahłybleknia polska-savieckaha parazumieńnia.

Hety raptoŭny zvarot u polskaj zahraničnaj palitycy pajaśniajuć zachodnia - eŭrapejskija palityki biezpasrednymi naśledkami niamieckaj palityki adnosna Čechasłavaččyny, csabliva adnosna Karpackaj Ukrainy, jakaja lahła pieraškodaj dla supolnaj polska-vuharskaj hranicy.

**Prociŭpolskaje pastupańnie Čechaŭ.** Polskija hazety padajuć, što apošnimi časami ŭ Čechasłavaččynie zamietna pastupovaje prociŭpolskaje pastupańnie. Usie českija firmy i fabryki atrymali ad administracyjnaj ŭłady nakaz nia pryjmać na pracu Palakoŭ; adnačasna zahadana zvolnić z pracy ŭsich hramadzian Polščy, katorych čechasłavackaja palicyja śpiešna vysiałaje z Čechasłavaččyny.

**Zbližeńnie Francyi z Niamieččynaj.** U minułym tydni Francyja z Niamieččynaj padpisali dahavor dobrasusiedzkaha sužyćcia. Hety dahavor zbližeńnia Francyi z Niamieččynaj pakazvaje, što Niamieččyna jdzie na likvidacyju svaich pretensijaŭ adnosna Francyi, a Francyja likviduje svaju palityku adnosna ŭschodniaj Eŭropy, dzie na čało vystupaje Niamieččyna.

**Rearhanizacyja ŭradu ŭ Litvie.** U pačatku h. m. ŭ Litvie adbyłasia rearhanizacyja ŭradu i źmiena litoŭskaj dyplomacyi ŭ Polščy i ŭ Niamieččynie. Ministar zahraničnych spraŭ Łozarajtis padaŭsia ŭ adstaŭku. Novy ŭrad ustanaviŭsia na čale z dasiulešnim premjeram ks. Mironasam. Ministram zahraničnych spraŭ naznačany Juozas Urbšys. Adnačasna z hetaj rearhanizacyjaj uradu adklikany z Polščy litoŭski pasoł Škirpa i naznačany pasłom u Niamieččynu, a ŭ Polšč naznačany dr. Šaulys, byŭšy pasoł u Berlinie.

**Rasiejskija balšaviki suproć kamunistyčnaj partyi Biełarusi.** Rasiejskaja balšavickaja hazeta „Pravda" ŭ specyjalnaj karaspandencyi z Mienska danosić, što Kamunistyčnaja Partyja Biełarusi nie dastatačna zmahajecca z „voraha-mi narodu," na jakich pakazvajuć maskoŭska-centralistyčnyja danoščyki. Ataka „Pravdy" na kam. partyju Biełarusi paćviardžaje čutki, što biełaruski vyzvolna-narodny ruch pranikaje ŭžo i ŭ kiraŭničyja vorhany Kamunistyčnaj Partyi Biełarusi.

**Ab hraničnym zbližeńni Vuhryi z Polščaj.** Ab hraničnym złučeńni Vuhryi z Polščaj šmat pisała i dalej piša vuhorskaja i polskaja presa. Ab hetym havaryli i dalej havorać vuhorskija i polskija palityki. Sprava davoli trudnaja i skamplikavanaja, bo miž Vuhryjaj i Polščaj raspałažany dźvie novyja federacyjnyja dziaržavy—Słavakija i Karpackaja Ukraina, jakija razam z Čechijaj stanoviać fedaracyjnuju Čechasłavaččynu. Pry hetym treba adznačyć, što za federacyjnaść ciapierašniaj Čechasłavaččyny i nienarušalnaść ustanoŭlenych miunchenskaj konferencyjaj (Anhlii, Francyi, Niamieččyny i Italii) i vienskim paluboŭnym sudam (Niamieččyna i Italija) jaje hranic staić Niamieččyna i pryznajuć hetyja hranicy Francyja z Anhlijaj.

Praŭda, dla Vuhryi i Polščy hetkaje palityčnaje razhraničańnie nia vyhadnaje, ale sučasnaja palityka prabuje apiracca na padstavu samaaznačeńnia narodaŭ i ŭ hetym vypadku i punkcie trymajecca takoj padstavy Niamieččyna, Francyja i Anhlija

**Palityčnaje adstupleńnie Vuhryi.** Premjer vuhorskaha ŭradu Imredi padaŭ zajavu, što „Vuhryja nia dumaje ab nijakaj prostaj akcyj, kab zabiaśpiečyć sabie Karpackuju Ukrainu. Zusim uśviedamlajučy sabie zahraničnaje pałažeńnie, mušu zajavić, što nie dadzimsia ŭciahnuć u nijakuju biezadkaznuju akcyju, jakaja nia maje nadziei na akančalny rezultat."

Hazety pišuć, što Vuhryja zrabiła hetaje palityčnaje adstupleńnie pad naciskam Niamieččyny

# Z Sojmu i Senatu

**Uradavyja prajekty.** Ciapier u Sojmie i Senacie razhladajucca ŭradavyja prajekty novych zakonaŭ, a hałoŭna budžetu na 1939-40 hod; adbyvajecca dyskusija, jakaja zvyčajna maje charaktar palityčny.

**Dalejšaja konsolidacyja O. Z. N-nu.** Padčas dyskusii ŭ Sojmie vyjaviłasia, što OZN, jaki imkniecca skansalidavać uvieś Polski narod, jašče sam nia zusim skansalidavany: pasły z OZN-u vykazali raźbiežnaść pahladu na haspadarčuju palityku ŭ Polščy. Dziela hetaha OZN dalej konsalidujecca ŭnutry.

**Apazycyja i interpelacyi.** Pobač bolšaści pasłoŭ z OZN znajšłosia ŭ Sojmie i Senacie kala 3-ch dziesiatkoŭ pasłoŭ i senataraŭ, katoryja stanuli ŭ apazycyi adnosna OZN-u i adnosna ciapierašniaha ŭradu. Apłača hetaj apazycyi stajać voddal ad OZN-u takža i Ukraincy.

Padčas dyskusii apazycyjnyja pasły ŭkraincy padali až niekalka interpelacyjaŭ. U hetym 4 interpelacyi ŭkrainskich pasłoŭ.

**Ukraincy za aŭtanomiju.** Ukrainski pasoł vicemaršałak Mudryj padčas sojmavaj dyskusii, ŭ svajej pramovie ab pałažeńni Ukraincaŭ u Rečypaspalitaj adciemiŭ, što dziela ŭnormavańnia suadnosinaŭ miž Palakami i Ukraincami padaść prajekt zakonu aŭtanomii dla Ukraincaŭ. Hetaja zajava vicemaršałka Mudryja vyklikała siarod bolšaści pasłoŭ vostryja spraciŭleńni.

# LISTY

## Biełaruskuju knižku tut redka spatkaješ.

*Kryvasielcy* — heta vioska ŭ *Brasłaŭskim pav.* Maje 37 chat, u katorych žyvie bolš sotni žycharoŭ. U vioscy jość śviatlica, u katoruju ŭ doŭhija viečary źbirajecca moładź. Tam ihrajuć u šaški, karty, piajuć mnoha biełaruskich pieśniaŭ. Pjanstva i razboj u našaj vioscy nia vodziacca, choć u vakolicy zdarajecca. Naša vioska čakaje chutaroŭ. U Kryvasielcach šmat piajuć pieśniaŭ biełaruskich na viasielli, na dažynkach i pry inšych nahodach. Pabiełarusku havoryć usia vioska, dy nia tolki naša vioska, ale ahułam ŭsiudy tut hrymić mova biełaruskaja. Dzieniadzie vidacca — kalendary visiać 1938 hodu biełaruskija, ale knižki tut vielmi redka pakazvajucca. *Vajciech.*

## Praz śviedamaść da dabrabytu.

*v. Narejki, Juraciskaj vol., Vałožynskaha pav.* Pałažeńnie našaj vioski ciažkoje; vioska našaja da hetaj pary jašče niaśviedamaja i nie sarhanizavanaja, jak druhija vioski, moładź našaja pačynaje patrochu cikavicca lepšym žyćciom; hazety siudy nie dachodziać žadnyja, bo nichto z nas nia viedaje, jak ich i vypisać; śviedamaść adnak biełaruskaja pačynaje ŭ nas patrochu raźvivacca; da lepšaj śviedamaści jość vialikaja pieraškoda. — heta niedachop biełaruskich knižak i hazet, katoryja paznajomili-b nas z biełaruskim žyćciom; žychary našaj vioski viery pravasłaŭnaj, choć jość niekalka i katalikoŭ. Treba adnak śćvierdzić, što moładź naša nie dziarecca sama z saboju, vodki nia pjeć,nia kuryć, złodziejaŭ u nas takža niamašaka. Tolki adzin brak,— heta ciemnata, ale heta ničoha — moładź naša pakrysie pačynaje cikavicca śvietam i biełaruskim žyćciom, pačynaje ciapier intarasavacca knižkami i hazetami, adnym słovam — začynaje razumieć, što tolki praz uśviedamleńnie, praz aśvietu možna dajści da lepšaha žyćcia i bytu svajej vioski.

*Janka.*

## Замест гарэлкі — газэту і кніжку!

*Чарэса, Браслаўскі пав.* Сёлета каля нас ураджаі былі нішто сабе і ёсьць што людзям вазіць на кірмаш прадаваць, а прадаўшы ёсьць за што і выпіць. Добра яшчэ, як хто вып'ець у меру і патрапіць дабрацца да хаты, але бываюць выпадкі, што напіваюцца да бяэпрытомнасьці і нярэдка трапляюць у роў, або і ў возера, бо й гэтак было ў нас ня дужа даўно. Ці ня прыгажэй было-б за тыя грошы, што прапіваем, набыць сабе газэту ці кніжку і цьвяроза вярнуцца да хаты?! *Сьведка.*

# Roznyja viestki

**Apostalskaja Stalica prociŭ pahromu Žydoŭ.** Hazety padajuć, što Apostalskaja Stalica z hłybokim sumam śladzić za raźvićciom i nastupstvami nadmiernaha niamieckaha nacyjanalizmu. Apošnija arhanizavanyja pahromy Žydoŭ u Niamieččynie razhladajucca Apostalskaj Stalicaj, jak pastupki niechryścijanskija i nialudzkija.

**Štoraz bolš rodnaha duchavienstva na Dalokim Uschodzie.** Lik biskupaŭ i ksiandzoŭ miajscovaha pachodžańnia štoraz prybyvaje nia tolki ŭ Japonii, Kitaju i Indyjach, ale taksama i ŭ Jndokitaju, dzie ŭžo jość 3 biskupaŭ i 1226 ksiandzoŭ miajscovaha pachodžańnia.

**Archeolohičnyja vykapy ŭ Pastaŭskim paviecie.** U minułym tydni navukoŭcy Vilenskaha Universytetu raskapali kala Vaŭkałaty, Pastaŭski pav. kurhany i sćvierdzili, što heta mahiły biełaruskich prodkaŭ Kryvičoŭ. U mahiłach znajšli našyjniki, branzalety i inšyja prybory.

**Štučny jadvab z biarozy.** Švedzki prafesar rik Gaegglund adkryŭ u biarozie vałakno, z jakoha možna vyrablać štučny jadvab. Kali hetaje adkryćcio ŭdaskanalicca, dyk našaja biaroza padymiecca ŭ canie, bo budzie nadavacca nia tolki na ŭsialakija mebli i ŭ pieč na apał, ale i na pryhožyja žanočyja sukni.

**Trocki pradkazvaje pieravarot u SSSR.** Trocki ćvierdzić, što ŭ SSSR nabližajecca pieravarot hramadzkaha ładu. Ciapier—kaža Trocki — nichto ŭ kamunizm u SSSR nia vieryć, dy tam i niama kamunizmu. Jość dyktatar Stalin, jakoha ŭsie nienavidziać horš čymsia nienavidzieli cara Mikołu II.

**U Polščy niedachop 6.000 lekaraŭ.** Na sabrańni studentaŭ medycyny ŭ Varšavie dr. V. Sylvestrovič pradstaviŭ pałažeńnie acharony zdaroŭja ŭ Polščy i skazaŭ: u Polščy jość 12.000 lekaroŭ, a treba 18.000.

**Śviet zbroicca.** Amerykanskija palityki dakazvajuć, što ciapier śviet zbroicca ŭ 4 razy bolš čymsia prad suśvietnaj vajnoj.

**PADPISKA Ŭ SKŁADČYNU**

**Kali čatyry asoby złožać čatyry załatoŭki na „Chr. Dumku“, dyk za heta, na adras, na jaki pakažuć, atrymajuć čatyry numary našaha časapisu.**

## Vilenskaja chronika.

**Admova Rasiejcam.** Rasiejskaje T-va ŭ Vilni rychtavałasia naładzić akademiju u česć 950-hodździa chryščeńnia Rusi. Administracyjnyja adnak ułady nia dali dazvołu.

**Łaźnia dla niezamožnych.** Mahistrat apłačvaje za try dni łaźniu („Agresta") dla niezamožnych.

**Ułamalisia ŭ carkvu Pračystaj** u nočy z 5 na 6.XII niejkija ludzi, što da jakich niama peŭnaści, ci jany zładziei, bo ničoha nia ŭziali, na ścienach panapisvali litary „T. i S.", pakinuli listy dziŭnaha źmiestu i paraśkidanyja 35 hrošaŭ.

## Paštovaja skrynka

**Uł. B.** Atrymali, kamu treba—addali, skarystajem u numary nastupnym. Biełaruskaj arhanizacyi załažyć nia možna, bo niama takoj. Vypisvajcie biełaruskija knižki, arhanizujcie pryvatnuju biblijateku i pašyrajcie aśvietu. U spravie knižak źviarniciesia da bieł. kniharni „Pahonia".

**A. D.** Ci vytryvajem — zaleža ad akuratnaj apłaty padpiski.

**B. K.** „Chr. D." budzie tydniovikam i budzie kàštavać 4 zał. Płacić možna i ŭ składčynu: kali 4 asoby pryšluć zaraz 4 zał. — atrymajuć na adzin, na jaki žadajuć, adras 4 ekz. hazety. Hetkija składkovyja padpiščyki atrymajuć tak-ža premiju, jak pakazana ŭ „Ch. D." — Kalendary —heta handlovaja sprava i biaz hrošaj nie pasyłajucca.—Ci vašy vieršy padojduć u „Калосьсе" — zhadać trudna Prysyłajcie, niachaj redakcyja acenić. Dla „Zorki" vieršy Vašy niekatoryja padojduć. Za probnyja adrasy dziakujem.

**A. O.** Jak bačycie — jašče drukujem. Pišycie bolš, budziem karystać.

**P. S.** Z Vašych rukapisaŭ u nas ničoha nia zhinie, u svaim časie skarystajem i z rešty.

**J. F.** Duža Vam dziakujem za Vašu karespandencyju; nadrukujem u nastupnym numary; zdajecca, jana nie sastareje. Nie zabyvajcie ab nas! Pryvitańnie Vam!

**B. B.** List i hrošy atrymali, adras źmianili, prośbu spoŭnili. A kali što da Vas nie dachodzie, dyk pišycie; ks. Fr. Č.: Montigny -- en—Ostr. (N) Groupe D 4.

**Ks. V. Š.** U numary nastupnym skarystajem.

**J. B.** Karystajem.Skarystajem i z rešty. Było-b duža dobra, kab Vy ŭ henu viosku dy padkinuli biełaruskich knižak i hazet!

**J. K.** U nastupnych numaroch „Chr. D." i ŭ „Zorcy" pastarajemsia vykarystać. Ale drenna vy zrabili, što nie padali svajho adrasu! Vy tolki napisali: Vialikija Kašeŭniki, a dzie jany, dyk chto-ž ich viedaje!

**V. B.** Atrymali, pastarajemsia vykarystać. Pišycie čaściej!

**J. Č.** Atrymali, sprabujem jašče raz ščaścia. Toje, što prosicie, atrymajecie praz Vašu „dobruju znajomuju".

**Č. S.** Duža dziakujem, prośbu spoŭnim. Nie zabyvajcie ab nas! Pryvitańnie Vam usim!

**J. S.** Atrymali, skarystajem, pišycie čaściej, pašyrajcie „Chr. D.", prysyłajcie probnyja adrasy!

## Ужо выйшаў з друку і прадаецца гэткі:




# БЕЛАРУСКІ СЯЛЯНСКІ КАЛЕНДАР

**128 бачынаў, багаты і цікавы гаспадарскі і асьветны зьмест.**

**Цана 1 экз. календара 50 гр., хто купляе больш дастае вялікі спуск.**

*Усюды дамагайцеся „Беларускага Сялянскага Календара на 1939 г."*

**Галоўны склад: Бел. Кнігарня «ПАГОНЯ»: Wilno, Завальная 1.**

Padpiska na „Chr. Dumku" na hod —4 zał., na paŭhodu— 2 zał. na try miesiacy — 1 zał. Cana asobnaha numaru — 10 hr.
Adrys Redakcyi i Administracyi: Vilnia (Wilno), Zavalnaja vul. № 1—2.

Redaktor W. JERMAŁKOWICZ — Wydawca KS. AD. STANKIEWICZ
Рэдактар В. ЕРМАЛКОВІЧ — Выдавец КС. АД. СТАНКЕВІЧ

Drukarnia Białoruska im. Fr. Skaryny, Wilno, Zawalna 1. — Беларуская Друкарня Ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1